ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 86(5268)
Чацвер, 2 жніўня 2001 года

Кошт у розніцу — 80 руб.

Валанцёрскі рух



# "Альба" не загіне

Сэрца шчыміць ад прыгажосці, якую бачыш, калі крочыш па старажытных сцежках нясвіжскага парку "Альба", што закладзены ў XVI стагоддзі тагачасным уладальнікам Нясвіжа Радзівілам Сіроткам. Велічнае адчуванне даўніны напаўняе душу нейкім таямнічым трапятаннем. Праз шаты магутных дрэў праглядваюць вежы старога радзівілаўскага замка, ціха шапоча зялёная вада шматлікіх стаўкоў і азёр...

Стоячы на штучным востраве, можна сабе ўявіць, як Радзівіл чакаў гасцей, якія плылі на баль на лодках па васьмі зробленых па яго загаду каналах, што разыходзіліся быццам промні. Нагадвае казку? Не, гэта не казка, гэта — рэальнасць беларускай зямлі.

На жаль, незлічоныя войны знішчылі тут шмат чаго з гістарычнай спадчыны, але астатняе робяць час і чалавечая нядбайнасць. Каб падтрымліваць парк у належным стане, трэба шмат грошай. Іх няма. Тым часам замак занепадае, а парк робіцца лесам, сістэма штучных стаўкоў і азёр засмечваецца, месцамі забалочваецца, бо парушана сістэма водаабмену. Ёсць прыклады, калі такія паркі з цягам часу проста гінулі...

Мясцовая адміністрацыя мае намер звярнуць увагу рэспубліканскага кіраўніцтва і грамадства краіны да праблем парку. Але ў Нясвіжы, акрамя "Альбы", — шмат іншых гістарычна-культурных аб'ектаў... Інакш кажучы, атрымаць неабходныя сродкі — цяпер нерэальна.

Дзіўна, канешне, атрымліваецца: за мяжой турысты аддаюць немалыя грошы, каб трапіць у такія мясціны. Тут і цудоўны адпачынак на прыродзе, і магчымасць даведацца шмат новага... Калі прывесці ўсё ў належны стан, можна было б вярнуць выдаткі і атрымаць прыбытак.

Але калі чакаць лепшых часоў ды толькі марыць, парк ціха прыйдзе ў занядбанне. Трэба рабіць тое, што магчыма, і на тыя сродкі, што ёсць. Напэўна, менавіта так разважалі арганізатары валанцёрскага летніка, што ўжо пяты год працуе ў нясвіжскім парку. Беларускім саюзам моладзі, які займаецца валанцёрскім рухам, і ўпраўленнем архітэктуры і горадабудаўніцтва Нясвіжскага райвыканкама распрацаваны канцэптуальны план добраўпарадкавання "Альбы".

Валанцёры, якія працуюць тут, — студэнты з усёй Беларусі. Сёлета іх 60 чалавек. Большасць — актывісты БСМ. Яны плацяць толькі за дарогу, а жыллё, харчаванне, праезд да месца працы забяспечылі ў гэтым годзе Рэспубліканскі цэнтр па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні, Мінскі гарвыканкам, Клецкі лясгас і іншыя ўстановы.

Працуюць валанцёры 4,5 гадзіны раніцай, потым — адпачываюць, удзельнічаюць у разнастайных культурна-забаўляльных мерапрыемствах (конкурсы "Міс і містэр "Альба-2001"", "Body art" і інш.).

Як паведаміў кіраўнік цэнтра занятасці Цэнтральнага камітэта Беларускага саюза моладзі Зміцер Савельеў, "Альба" — не адзіны валанцёрскі летнік. Школьнікі таксама працуюць на расчыстцы гістарычных ландшафтаў у Пінскім раёне (сядзіба Скірмунтаў), у Брэсце ("Цвярдыня над Бугам"), Віцебску, гродзенскім парку.

Я лічу, што такі вопыт трэба толькі вітаць і ўсяляк падтрымліваць. Гэта ўзаемакарысны праект і для дзяржавы, і для моладзі. Хлопцы і дзяўчаты клапоцяцца пра радзіму, а родная зямля ім дорыць сваю прыгажосць, робіць іх больш моцнымі і здаровымі.

**Вольга ЗАЙКІНА.**

НА ЗДЫМКАХ: сяброўства пачынаецца з усмешкі; аб перспектывах развіцця парку "Альба" расказвае намеснік начальніка ўпраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва Нясвіжскага райвыканкама В.Дражын; і дрывасекі, і артысты.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**






Правы дзіцяці

# На грунце сямейнай педагогікі

***Днямі ў метро на вочы трапілася аб'ява: "Прафесія — матуля-выхавальніца. "SOS — Дзіцячая вёска" запрашае жанчын, чыё прызванне апякаць і выхоўваць дзяцей, для працы і пражывання разам з дзецьмі ў сям'і "Дзіцячай вёскі". Патрабаванні: 27-40 гадоў, не замужам." Адразу ўзнікла шмат пытанняў. Што за прафесія? Можа, гэта педагог? Чаму менавіта такія патрабаванні?***

За адказамі я накіравалася ў "Дзіцячую вёску", якая знаходзіцца ў Бараўлянах. Вёска ўражвае сваёй чысцінёй і гасціннасцю. Вока радуюць кветкі, маладыя дрэўцы, маленькія ўтульныя хаткі. На жаль, у ёй не было чуваць дзіцячых галасоў: усе паехалі адпачываць. Засталіся толькі клапатлівыя дарослыя, да якіх я і завітала са сваімі пытаннямі.

Пагутарыць давялося з Рытай Міхайлаўнай Фурманавай, педагогам-псіхолагам "Дзіцячай вёскі". Зараз яна займаецца адборам матуль-выхавальніц для новай вёскі, якая пачала будавацца ў Мар'інай Горцы. Яна і патлумачыла, што азначае "матулявыхавальніца". Жыццё ў "Дзіцячай вёсцы" ўяўляе сабой форму выхавання дзяцей-сірот, набліжаную да сямейнай. Гэта асноўная мэта з'яўлення такой вёскі на Беларусі (дарэчы, работа вядзецца ўжо 5,5 года). Таму маці-выхавальніца, па-першае, — ахоўніца сямейнага ачага. Асноўная роля жанчыны, якая вырашыла стаць на такі шлях, — выхоўваць, апякаць, дапамагаць дзецям. З аднаго боку, матулявыхавальніца — прафесія (яна атрымлівае заработную плату, мае выхадныя дні, адпачынак), а з другога, калі жанчына становіцца маці, яна набывае новы сацыяльны статус. Маці-выхавальніца — сацыяльная маці, якая замяняе дзіцяці яго біялагічную.

Стаць матуляй для дзяцей-сірот няпроста, бо існуе шэраг патрабаванняў і, галоўнае, конкурсны адбор. Адна з умоў — абмежаванне ва ўзросце. Сям'я складаецца з 6-9 чалавек. Каб даглядаць столькі дзетак, трэба мець добрае здароўе. У вёсцы працуюць жанчыны, якія з той ці іншай прычыны не змаглі стварыць сваю сям'ю. Яны мелі патрэбу ў дзецях, а дзеці, у сваю чаргу, — у матулях. Зараз у "Дзіцячай вёсцы" трынаццаць мам выхоўваць 95 дзяцей.

Конкурс матуль-выхавальніц будзе праходзіць на працягу года. Ён уключае некалькі этапаў. Першы — кантакт па аб'яве, у ходзе якога жанчына атрымлівае поўную інфармацыю пра "SOS — Дзіцячую вёску", прафесію SOS-матулі, знаёміцца з патрабаваннямі да маці-выхавальніцы, запаўняе анкету.

Наступны этап — першае субяседаванне, дзе высвятляюцца падрабязнасці жыцця жанчыны: узаемаадносіны ў сям'і, як складвалася асабістае жыццё.

Далей канкурсантам даецца магчымасць пажыць у сям'і. Стандартны мінімум складае пяць дзён. Паводле слоў Рыты Міхайлаўны, вельмі важна, каб жанчына паглядзела на жыццё ў вёсцы з практычнага боку, пагутарыла з тымі, хто ўжо працуе, атрымала больш поўную інфармацыю пра дзяцей.

Пасля гэтага іспыту — стажыроўка ў "Дзіцячай вёсцы" Бараўлян у якасці памочніцы маці на працягу аднаго месяца.

І апошняе — тэарэтычнае навучанне (3-4 месяцы), якое прадугледжвае вучобу па шэрагу дысцыплін, вельмі неабходных для будучай працы: медыцына, псіхалогія, педагогіка, дзіцячая і юнацкая літатура, вядзенне хатняй гаспадаркі і інш.

Калі жанчына змагла прайсці праз усе этапы конкурсу, то фонд заключае з ёю кантракт. Будучая маці-выхавальніца самастойна прымае рашэнне ў выбары дзяцей для сваёй сям'і.

Здавалася б, што для таго, каб працаваць з дзецьмі, патрабуецца педагагічная адукацыя. Але супрацоўнікі фонду насцярожана ставяцца да канкурсантак-настаўніц, бо тыя часта не могуць выйсці за межы сваёй прафесіі. Спрацоўвае схема: настаўнік — вучань, а не маці — дзіця. У кожнай жанчыне закладзены мацярынскі інстынкт, таму іншы раз інтуітыўна яна ведае і адчувае больш, чым прафесійны педагог. "Дзіцяці не трэба нудная педагогіка, яму неабходны добрыя, цёплыя, шчырыя адносіны", — лічыць Р.М.Фурманава. Думаю, ёсць над чым задумацца нашым настаўнікам. Канешне, з цягам часу ў іх выпрацоўваюцца схематычныя адносіны да вучня (цяжкасцяў і праблем шмат), але шчырае, добрае стаўленне робіць настаўніка сапраўдным майстрам сваёй справы. Каб стаць матуляй-выхавальніцай, трэба мець і педагагічныя ўменні і навыкі, але галоўнае — проста любіць дзіця, і тады можна будзе з лёгкасцю пераадолець усе перашкоды.

Патэнцыяльных канкурсантак, якія падышлі з першых патрабаванняў (узрост, сямейнае становішча) назбіралася ўжо прыкладна 50 чалавек.

Маці-выхавальніца павінна даваць дзіцяці адчуванне сацыяльнай абароненасці, таму выхаванне дзяцей у "SOS — Дзіцячай вёсцы" і будуецца на грунце сямейнай педагогікі. Дзіцячая вёска дасягае сямейнага падабенства шляхам рэалізацыі чатырох асноўных прыцыпаў. Раней гэтыя педагагічныя прынцыпы прымяняліся ў працэсе апякунства дзяцей-сірот, але паасобку. "Дзіцячая вёска" ўпершыню аб'яднала іх у педагагічную сістэму і стварыла магчымасці для прымянення на практыцы. Рэалізацыя прынцыпаў дазваляе праводзіць інтэграцыю асірацелых дзяцей у грамадства з улікам іх індывідуальных асаблівасцей. Згаданыя прынцыпы зводзяцца да наступнага: SOS-маці — аснова здаровага, паўнацэннага развіцця дзіцяці; у "SOS — Дзіцячай вёсцы" дзіця жыве ў большасці выпадкаў не з выхаванцамі-аднагодкамі, а з братамі і сёстрамі рознага ўзросту. Родныя браты і сёстры аб'яднаны ў адной сям'і: тут дзіця абаронена, яго любяць, аб ім клапоцяцца, заўсёды побач матуля; "SOS — Дзіцячая вёска" — пасрэднік паміж дзіцем і знешнім светам, падуладна і кіраванню, і кантролю. Прынцып інтэграцыі дзіцяці-сіраты рэалізуецца праз усебаковую адкрытасць "SOS — Дзіцячай вёскі" навакольнаму свету.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ**

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

# Па дзесяці намінацыях

## вызначаецца рэйтынг навучальнай установы ў Асіповіцкім раёне Магілёўскай вобласці

***У артыкуле "Кіраванне адукацыйнымі сістэмамі ва ўмовах рэформы агульнаадукацыйнай школы", надрукаваным у першым нумары часопіса "Кіраванне ў адукацыі", намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Г.Д.Дылян асаблівы акцэнт зрабіў на "неабходнасці стварэння па ўсёй вертыкалі кіравання механізма кантролю за якасцю адукацыі".***

Работнікі адукацыі, асабліва тыя з іх, хто займаецца праблемамі кіравання, з задавальненнем сустрэлі ўвядзенне адукацыйных стандартаў, якія, безумоўна, будуць садзейнічаць стварэнню сістэмы кіраўніцкай дзейнасці па кантролі за якасцю адукацыі. Ні для каго не сакрэт, што аддзелы адукацыі, адміністрацыі школ маюць патрэбу ў распрацоўках вучоных па метадыцы работы са стандартамі. Мяркуем, было б мэтазгодным вызначыць адзін з раёнаў рэспублікі і замацаваць за ім групу вучоных, вядучых кіраўнікоў сістэмы адукацыі рэспублікі, якія б напрацоўвалі канкрэтны вопыт прымянення стандартаў па ўсёй вертыкалі сістэмы адукацыі і аператыўна даводзілі яго да выканаўцаў. Але пакуль гэта няхай і далёкая, але толькі перспектыва. У такіх умовах нам застаецца выкарыстоўваць як традыцыйныя, так і абноўленыя формы ацэнкі працы педкалектываў, устаноў адукацыі.

***Ужо трэці год у сябе ў раёне мы праводзім спаборніцтвы сярод устаноў адукацыі за дасягненне найвышэйшых паказчыкаў у працы.***

Неабходнасць гэтага выклікана не столькі тым, што такія спаборніцтвы вярнуліся да нас з мінулага і праводзяцца сярод розных галін народнай гаспадаркі, а перш за ўсё неабходнасцю і ў справядлівым суаднясенні памераў аплаты працы кіраўнікоў устаноў адукацыі ў залежнасці ад яе якасці. Са мной пагодзяцца загадчыкі аддзелаў адукацыі і іх намеснікі, што калі справа даходзіць да размеркавання надбавак да заработнай платы кіраўнікам, дык часцей за ўсё пытанне вырашаецца "на вока". Там жа, дзе ёсць сістэма ў ацэнцы працы ўстаноў, рабіць гэта намнога прасцей. Гэтак жа нескладана вызначыць і пераможцаў спаборніцтваў па выніках года, калі гэта будзе запатрабавана рай(гар)выканкамам.

Распрацоўваючы ўмовы раённых спаборніцтваў на год, мы вызначылі, што кіраўнікі першых пяці з 27 сярэдніх і базавых школ раёна атрымліваюць надбаўку да зарплаты ў аб'ёме 50 працэнтаў службовага акладу, прычым за 1-3 месцы — на ўвесь год, а за 4-5 месцы — на І квартал. (Тыя, хто заняў 6-10 месцы, атрымліваюць 45 працэнтаў, 11-15 — 40 працэнтаў, 16-20 — 35 працэнтаў, апошнія 21-22 месцы па сярэдніх школах — 30 працэнтаў). Кіраўніцтва аддзела можа прыняць у адносінах да аўтсайдэраў іншае рашэнне. Гэтая шкала разлічана на прымяненне пры творчых дасягнененнях у працы і з'яўляецца вызначальнай, але не адзінай. Другім аспектам з'яўляецца "складанасць і напружанасць працы".

Спынімся на гэтым самым другім аспекце. У яго змест уключаны: складанасць цеплавой гаспадаркі, памеры зямельных участкаў, зменнасць заняткаў у школе, наяўнасць неграмадскага харчаблока, прышкольнага інтэрната для дзяцей з малазабяспечаных сем'яў, кансультацыйнага пункта для завочнікаў, колькасць раённых семінараў, праведзеных за канкрэтны перыяд на базе школы, конкурсаў, канферэнцый, спартыўных спаборніцтваў, арганізацыя падвозу вучняў школьным транспартам. Канчатковы рэйтынг вызначаецца сярэднеарыфметычным паказчыкам двух складнікаў: творчыя дасягненні і напружанасць працы.

Можа ўзнікнуць пытанне: школа займае апошняе або перадапошняе месца ў рэйтынгу, а яе кіраўніку выдзяляецца надбаўка — 30 працэнтаў... Пытанне лагічнае. Аднак нельга не ўлічваць, што па напружанасці працы асобныя сельскія школы знаходзяцца ў асабліва складаных умовах. Напрыклад, у раёне Ліпеньская сярэдняя школа мае прышкольны інтэрнат для дзяцей з малазабяспечаных сем'яў, свой харчаблок і цеплавую гаспадарку. У школе завочна вучыцца моладзь і да т.п. У выніку па складанасці, напружанасці працы Ліпеньская сярэдняя школа лідзіруе, а па сярэднеарыфметычным двух складнікаў (50 працэнтаў + 35 працэнтаў — 20-е месца за творчасць роўная 85 і пры дзяленні на 2 атрымліваем 42,5 працэнта надбаўкі да зарплаты). З прыведзеных разлікаў відаць, што надбаўка кіраўніку гэтай школы вызначаецца пераважна за складанасць кіраўніцтва ёю. Нехта можа запярэчыць: не па выніках жа працы школа ацэньваецца? Гэта так. Але ж мы не можам не ўлічваць тое, што школа на 30 працэнтаў забяспечвае патрэбнасці раёна ў змесце, навучанні і выхаванні дзяцей з малазабяспечаных сем'яў, навучае значную колькасць моладзі, але не са "свайго" мікрараёна.

З 2000 года вынікі спаборніцтва або рэйтынг школ вызначаем пакавартальна і за год. Рашэнне прымае Савет аддзела адукацыі.

Што ж уключана ў рэйтынг устаноў адукацыі? Усяго намінацый дзесяць, у тым ліку: праверка ведаў вучняў (па асобным палажэнні), якая складаецца з даных па паступленнях вучняў у ВНУ і ССНУ, алімпіяды і вынікі кантрольных работ па тэкстах абласных і раённых упраўленняў адукацыі з абавязковай прысутнасцю пры іх правядзенні асістэнта ад аддзела адукацыі; базавы ўсенавуч (вызначаецца па працэнту вучняў мікрараёна школы, якія спынілі навучанне па нейкіх прычынах), паспяховасць (вызначаецца па працэнту вучняў, якіх пакінулі на другі год, выключаючы выпадкі, калі гэта рэкамендуецца медыка-педагагічнай камісіяй), творчыя конкурсы, агляды, выставы і да т.п., фізкультура і спорт, якасць харчавання школьнікаў, прафілактыка злачынстваў і правапарушэнняў, кадравы блок, які ўтрымлівае ўлік даных па колькасці настаўнікаў з вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыяй і працу педкалектываў па абагульненні ўдзелу ў конкурсах прафесійнага майстэрства, прыцягненне на патрэбы школы ўнёскаў спонсараў, шэфаў, заробленых школай сродкаў, атрыманых ад фізічных і юрыдычных асоб матэрыяльных каштоўнасцей.

***Аналіз прымянення нашай методыкі, напрыклад, за 1999 год і за першы квартал 2000 года, паказаў, што вызначэнне лепшых калектываў без градацыі іх на сельскія сярэднія, гарадскія сярэднія і базавыя школы не перашкаджае аб'ектыўнай ацэнцы:***

Так, паводле вынікаў работы за 1999 год пераможцай спаборніцтва сярод школ стала Асіповіцкая беларуская гімназія, другое месца заняла Вязьеўская сярэдняя школа, трэцяе — сярэдняя школа № 1, чацвёртае — сярэдняя школа № 3, пятае — Лапіцкая (сельская) сярэдняя школа. А паводле вынікаў першага квартала 2000 года наперадзе — Вязьеўская сярэдняя школа, другое месца атрымала сярэдняя школа № 3, трэцяе — сярэдняя школа № 2, чацвёртае — гімназія, пятае — сярэдняя школа № 1.

Якая ж матывацыя ўнясення тых або іншых крытэрыяў ацэнкі працы школ? Я ведаю, што ў асобных раёнах рэспублікі ўлічваюць працэнт школьнікаў, якія вучацца на "добра" і "выдатна", а таксама — колькасць медалістаў. Мы не ўключаем іх у рэйтынг з той прычыны, што гэта можа прывесці да фарсіраванага росту гэтых паказчыкаў, не падмацаванага рэальнымі ведамі вучняў. Нават уключэнне другагодніцтва — справа рызыкоўная. Асобныя дбайныя дырэктары, забыўшы пра аб'ектыўнасць у ацэнцы ведаў вучняў, могуць забяспечыць "стопрацэнтную" паспяховасць і рэзка павялічыць колькасць медалістаў. Да гонару нашых педагогаў трэба сказаць, што выпускнікі-медалісты пацвярджаюць на ўступных экзаменах у ВНУ і ССНУ вартасць заваяваных імі ўзнагарод.

Асобна трэба спыніцца на пытаннях, звязаных з вызначэннем рэйтынгу школ па намінацыях "Творчыя конкурсы, агляды" і "Фізкультура і спорт". Не сакрэт, што колькасць розных конкурсаў, аглядаў, спартыўных спаборніцтваў значна павялічылася. Кожная з абласных пазашкольных устаноў лічыць свае мерапрыемствы самымі галоўнымі і важнымі, абавязковымі для ўдзелу. Сёння ў раёнах спецыялісты аддзелаў не могуць скласці каляндар мерапрыемстваў без таго, каб не задзейнічаць вучэбныя дні. А ў гэтым жа можна ўгледзець парушэнне Закона "Аб правах дзіцяці". Таму лічым неабходным прывесці ў сістэму спартыўна-забаўляльныя мерапрыемствы.

***Міністэрства адукацыі вызначыла рэгламент спартыўных спаборніцтваў, а вось усялякія конкурсы растуць нібы грыбы пасля дажджу.***

Ствараецца ўражанне, што арганізатары іх не могуць загадзя вылічыць усе чырвоныя даты, юбілеі пісьменнікаў, гадавіны прыняцця гістарычна важных дакументаў. Што ў выніку? Аддзел адукацыі склаў гадавы план, школы ў адпаведнасці з ім таксама спланавалі сваю работу, а потым раптам "наплывае" нешта новае... У ідэале неабходна складанне і давядзенне да органаў адукацыі і ўстаноў календара ўсіх мерапрыемстваў на каляндарны год. Менавіта на каляндарны, фінансавы год, а не навучальны, і зрабіць гэта нескладана.

Што робім мы, каб разгрузіць школы ад вялізнага валу раённых, абласных, рэспубліканскіх мерапрыемстваў? Мы скарацілі колькасць конкурсных мерапрыемстваў для гарадскіх сярэдніх школ да пятнаццаці, для сельскіх — да дзесяці, для базавых школ — да пяці. Пры гэтым заўсёды пазначаем абавязковыя для ўдзелу мерапрыемствы, запрашаем да ўдзелу ў неабавязковых. Акрамя ўсяго іншага мы не павінны забываць пра тое, што, плануючы конкурсную праграму спаборніцтваў рэспублікі, вобласці, раёна, трэба ўлічваць магчымасці іх фінансавання.

У намінацыі "Фізкультура і спорт" рэйтынг вызначаецца пераважна паводле вынікаў удзелу школ у спартыўных спаботніцтвах. З улікам таго, што школы разбіты на падгрупы ў залежнасці ад колькасці вучняў, іх месца ў агульным шэрагу вызначаецца дастаткова аб'ектыўна. Напрыклад, паводле вынікаў 1999 года першае месца з 27 школ раёна заняла Пратасевіцкая сярэдняя школа, у якой вучацца 150 чалавек.

У намінацыі па ацэнцы эфектыўнасці працы па зніжэнні дзіцячай злачыннасці і правапарушэнняў улічваем колькасць вучняў, якія іх учынілі. Рэйтынг вызначаем па працэнту правапарушальнікаў ад колькасці вучняў 4-11 класаў. З другога квартала 2000 года кожнага, хто ўчыніў злачынства, пазначаем каэфіцыентам "2", таму што ўраўноўваць злачынствы і правапарушэнні было б няправільна.

Асобным радком ва ўмовы спаборніцтва ўваходзіць арганізацыя харчавання школьнікаў.

Падводзячы вынікі за мінулы год, пры ацэнцы работы школ з педагагічнымі кадрамі ўлічвалі працэнт педагогаў ад іх агульнай колькасці, якія маюць вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю. На Савеце аддзела прынялі рашэнне знаходзіць працэнт такіх педагогаў ад колькасці тых, што маюць першую катэгорыю з 3-гадовым стажам працы па ёй. Такі падыход дае магчымасць адсочваць прырост у працы па павышэнні кваліфікацыі кадраў, а не карыстацца варыянтам 1991 года. Лічым, што ўключаць у лік паказчыкаў колькасць настаўнікаў з першай катэгорыяй — неапраўдана, таму што гэта можа прывесці да дэвальвацыі іх, маючы на ўвазе, што экзамен для яе атрымання не патрэбны.

Вельмі асцярожна трэба падыходзіць да пытання ўключэння ў рэйтынг паказчыкаў умацавання вучэбна-матэрыяльнай базы і ўсіх іншых, якія абазначаюць працэс, а не яго вынік. Мяркуйце самі: ці вінаватыя школы, што яны не маюць сучасных камп'ютэраў? Што састарэў бібліятэчны фонд? Што ў іх няма спартыўнай залы? Дарэчы, Пратасевіцкая сярэдняя школа, якая, паводле вынікаў 1999 года, заняла першае месца па фізічным выхаванні, гэтай самай спартзалы якраз і не мае. Спяшаемся мы ўключаць у лік паказчыкаў і колькасць вучняў, якія займаюцца ў факультатывах, на курсах па выбары, у навуковых таварыствах. Калі мы ўключым іх, заўтра будзем спыняць асобных кіраўнікоў, якія ў пагоні за лічбамі праігнаруюць прынцып гуманізацыі навучання.

***Адзіны паказчык, які мы палічылі неабходным уключыць і які тычыцца пытанняў умацавання матэрыяльнай базы — гэта рэйтынг школ па аб'ёму прыцягнутых на патрэбы школы сродкаў спонсараў, шэфаў, а таксама заробленых школай.***

Гэты паказчык, спадзяёмся, не будзе мець доўгай прапіскі і знікне *па меры паляпшэння фінансавання сістэмы адукацыі.*

Умовы спаборніцтва на 2000 год прадугледжваюць і ўключэнне ў гэты працэс дзіцячых дашкольных і пазашкольных устаноў. Акрэслю паказчыкі, якія ўлічваюцца па іх. Па дзіцячых садах гэта: індэкс здаровых дзяцей; вынікі ўдзелу ў аглядзе фізічнай падрыхтаванасці "Мацак"; агляд "Харчаванне дашкольніка"; якасны склад педкадраў; прадстаўлены перадавы педагагічны вопыт, зарэгістраваны ў РМК; вынікі ўдзелу ў прафесійных конкурсах; адсутнасць скаргаў бацькоў на работу педагагічнага і абслуговага персаналу, факты па якіх пацвердзіліся; вынікі праверак кантралюючых органаў; добраўпарадкаванне тэрыторый і памяшканняў; прыцягненне сродкаў спонсараў; платныя паслугі.

Па дзвюх пазашкольных установах уключаны ва ўмовы спаборніцтва: захаванне кантынгенту вучняў, якія наведваюць гурткі; далучэнне вучняў, схільных да правапарушэнняў, да заняткаў у гуртках; эфектыўнасць гуртковай работы; абагульненне перадавога вопыту, зарэгістраванага ў РМК; прыцягненне сродкаў спонсараў і заробленых установай; станоўчыя вынікі праверак кантралюючых органаў.

Мы не прэтэндуем на права залічэння нашага вопыту ў сферу інавацый кіраўніцкай працы. Аднак ён можа быць карысным для спецыялістаў аддзела адукацыі. І ёсць сэнс, лічу, пра гэта гаварыць з трыбуны II з'езда настаўнікаў.

**Іван ПУЗЫНА,**
**загадчык аддзела адукацыі Асіповіцкага райвыканкама.**

## Інструктыўна-метадычныя пісьмы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на 2001 — 2002 навучальны год

# Чалавек. Грамадства. Дзяржава

У адпаведнасці з загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь № 263 ад 05.05.1999 г. у 2001-2002 навучальным годзе працягваецца паступовае ўвядзенне сацыяльна-гуманістычнага курса "Чалавек. Грамадства. Дзяржава" замест існуючага "Чалавек і грамадства". У новым навучальным годзе "Чалавек. Грамадства. Дзяржава" будзе выкладацца ў 8-10 класах, а ў 11 класе — прадмет "Чалавек і грамадства".

Вучэбныя праграмы па курсе "Чалавек. Грамадства. Дзяржава" надрукаваны ў навукова-метадычным часопісе "Чалавек. Грамадства. Свет".

8 клас — № 3, 1999 г.

9 клас — № 1, 2000 г.

10-11 класы — № 2 , 2000 г.

Іх паўторнае друкаванне будзе ў "Настаўніцкай газеце".

Па курсе "Чалавек і грамадства" ў 11 класе трэба карыстацца праграмамі для сярэдніх агульнаадукацыйных школ і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў 1999 года выдання (Мінск, НМЦэнтр).

На сённяшні дзень па новым прадмеце выдадзены вучэбныя дапаможнікі для:

8 класа — Чалавек. Грамадства. Дзяржава. "Мой свет" пад рэдакцыяй Харына Ю.А. (Мінск, Нар.асвета, 1999);

9 класа — Чалавек. Грамадства. Дзяржава. "Свет людзей" пад рэдакцыяй Харына Ю.А. (Мінск, Нар.асвета, 2001).

Падрыхтаваны да выдання вучэбны дапаможнік для 10 класа "Свет сацыяльнага дзеяння". У сувязі з тым, што затрымліваецца яго выхад, асобныя тэмы дапаможніка будуць друкавацца ў часопісе "Чалавек. Грамадства. Свет", пачынаючы з № 2, 2001 г.

У 10 класе працягваецца вывучэнне сацыяльных ідэй, засвоеных школьнікамі ў 8-9 класах, таму важна забяспечыць пераемнасць выкладання. У дапаможніку для 9 класа "Свет людзей" чалавек разглядаецца ў сістэме яго сацыяльных сувязей з блізкім мікраасяроддзем, а таксама з грамадствам і дзяржавай у цэлым. У 10 класе пры вывучэнні падобнай праблематыкі акцэнтуецца ўвага на дзейнасці чалавека. Маецца на ўвазе тое, што і грамадства, і культура, і духоўны свет асобы створаны і працягваюць тварыцца ў працэсе разнастайнай актыўнасці. Быць уласна чалавекам азначае браць лёс у свае рукі,ператвараць свет і самога сябе. Гэтая актывісцкая ўстаноўка павінна быць праведзена пры разглядзе ўсіх тэм курса.

Тэма 1. "Чалавек дзеючы" задае тон усёй тэме і канцэнтруе ўвагу на такіх фундаментальных характарыстыках сацыяльнага дзеяння, як незалежнасць і рызыка. Усялякае дзеянне індывіда з'яўляецца ў пэўным сэнсе сацыяльным і, трэба падкрэсліць, менавіта грамадства дае чалавеку свабоду самавызначэння, хаця і робіць такое самавызначэнне рызыкоўным.

Тэма 2. "Чалавек масавы" закранае праблематыку, асабліва важную для XX стагоддзя. У сучасным грамадстве чалавек дэіндывідуалізуецца і пад уздзеяннем эканамічнай адчужанасці, і ў выніку жыцця ў вялізных мегаполісах, і пад уплывам сродкаў масавай інфармацыі. Справа не толькі ў павелічэнні народанасельніцтва і яго згрупаванасці, але і ў спецыфічным феномене сучаснага соцыуму — "эфекце натоўпу", які праяўляецца не толькі на стадыёне або на мітынгу, але і ў маштабах цэлых дзяржаў. Зразумець прычыны і вынікі гэтай з'явы — значыць абараніць сваю асобу ад маніпулявання. Гэта тым болей важна, што адной з уласцівасцей "масавага чалавека" з'яўляецца схільнасць да насілля. Каб прадухіліць імкненне да насілля, як у грамадстве, так і ў самім сабе, неабходна абмеркаваць з вучнямі наступствы гэтай з'явы і механізмы абароны ад яе, ужо выпрацаваныя цывілізацыяй.

Тэма 3. "Мой учынак" непасрэдна звернута да асобы вучня і мае на ўвазе прававы і маральны аналіз дзейнасці кожнага чалавека. Для гэтага апісваецца структурная пабудова ўчынку, якая можа стаць мадэллю кваліфікацыі вучнямі асабістых дзеянняў. Тут важна не толькі засвоіць тэарэтычны матэрыял, але і разгледзець розныя сітуацыі маральнага і прававога характару (на матэрыялах Практыкума), выканаць практычныя заданні.

Тэма 4. "Чалавек у сістэме рыначных адносін" працягвае знаёміць школьнікаў з асновамі эканамічных ведаў, спецыфічнымі з'явамі рыначнай эканомікі. Веды аб фарміраванні рыначнай цаны, аб каштоўных паперах, аб прадпрымальніцтве і бізнесе, менеджменце і маркетынгу, безумоўна, спатрэбяцца вучням у штодзённым жыцці, дапамогуць ім зарыентавацца ў папулярных сёння эканамічных прафесіях. Асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на ролю дзяржавы ў кіраванні рыначнай эканомікай. Важна падкрэсліць тыя абставіны, што напрамкі эканамічнага развіцця краіны — вынік усвядомленага выбару і дзейнасці людзей па яго ажыццяўленні. Вывучэнне тэмы рэкамендуецца падмацоўваць матэрыяламі перыядычнага друку.

Тэма 5. "Сацыяльная структура і палітычныя працэсы ў грамадстве" закранае незвычайна важны пласт чалавечых дзеянняў, звязаных з барацьбой за заваёву, падтрымку і выкарыстанне дзяржаўнай улады. Розныя сацыяльныя групы імкнуцца рэалізаваць у гэтай сферы свае інтарэсы. Асобны чалавек таксама выступае як "чалавек палітычны", распаўсюджваючы свой палітычны светапогляд, прымаючы ўдзел у выбарах або іншых акцыях ці ўхіляючыся ад самавызначэння па гэтых пытаннях. Задача тэмы — абудзіць у маладых людзей пачуццё дачынення да палітычных працэсаў у сваёй краіне, дзейсныя да іх адносіны.

Тэма 6. "Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь" лагічна далучаецца да папярэдняй. Палітычнае жыццё — немагчымае без ведаў Асноўнага закону краіны, у якой жывеш. Пры вывучэнні правоў і абавязкаў грамадзян Рэспублікі Беларусь карысна прасачыць, як у нашай Канстытуцыі рэалізаваны асноўныя палажэнні Канцэпцыі правоў чалавека, якія вывучаліся ў 9 класе. Неабходна пазнаёміць вучняў з пабудовай нашай выбарчай сістэмы, якая забяспечвае дэмакратычнае кіраванне грамадскім развіццём. Вывучаючы дадзены прававы дакумент, трэба паказаць яго значэнне як "настаўленне да дзеяння", актуальнага для кожнага грамадзяніна.

Заключны дыспут пакажа вынікі праведзенай работы па фарміраванні актыўнай жыццёвай пазіцыі старшакласнікаў. Але ў палеміцы на тэму "Лёс і мае асабістыя дзеянні" не можа быць канчатковага фіналу, як няма яго і ў гісторыі.

Звяртаем увагу настаўнікаў на праблему грамадзянскай адукацыі, якая дае магчымасць для самапазнання, усведамлення сябе як асобы ў свеце, развіцця здольнасцей чалавека да самарэалізацыі, да наладжвання гарманічных узаемін у пэўным соцыуме, у грамадстве. Без засваення асноў дэмакратыі і правоў чалавека праз стварэнне сістэмы грамадзянска-прававой адукацыі ў школе дасягнуць гэтага немагчыма. Важнае месца ў гэтай сістэме займае прадмет "Чалавек. Грамадства. Дзяржава", матэрыял якога ва ўсіх класах дае магчымасць шмат разоў звяртацца да вывучэння прававых дакументаў: Дэкларацыі праводзіцяці (рэзалюцыя № 1386(24) Генеральнай Асамблеі ААН ад 20 лістапада 1959 г.); Сусветнай дэкларацыі аб забеспячэнні выжывання, абароны і развіцця дзяцей (Нью-Йорк, 30 верасня 1990 г.); Сусветнай дэкларацыі правоў чалавека, ратыфікаваныя Рэспублікай Беларусь (Мн., 1998), Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Для паспяховай дзейнасці ў гэтым напрамку раім настаўнікам звярнуцца да наступных публікацый часопіса "Чалавек. Грамадства. Свет":

Бяляева А.В. Правы чалавека як маральная каштоўнасць. — №1, 2001.

Васілевіч Г.А. Канстытуцыйнае развіццё Рэспублікі Беларусь. — №1, 2001.

Козікава І.А. "Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь" у рамках грамадазнаўчых курсаў (базавая школа). — №3, 2000.

Паноў С.В. Магчымасці рэалізацыі міжпрадметных сувязей з гістарычнымі курсамі ў працэсе выкладання правоў чалавека ў 7 класе. — №3, 2000.

Харын Ю. Праблема правоў чалавека ў курсе "Чалавек. Грамадства. Дзяржава". — №2, 2000.

Выпускны экзамен за курс сярэдняй школы па прадмеце "Чалавек і грамадства" па-ранейшаму застаецца па выбары.

**Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі.**

# Геаграфія

Выкладанне геаграфіі ў 2001-2002 навучальным годзе будзе ажыццяўляцца па праграмах сярэдняй агульнаадукацыйнай школы 2001 года, у якія ўнесены невялікія змяненні ў параўнанні з праграмамі 1998 года.

Змяненні ў змесце некаторых тэм:

6 клас — Тэма 1. Да асноўных паняццяў далучаны часавыя паясы, мясцовы і паясны час, да ўменняў вучняў — вызначэнне паяснога часу;

Тэма 7. Пералік геаграфічнай наменклатуры папоўніўся Польшчай

7 клас — Тэма 4. Да асноўных паняццяў далучаны платформы, геасінклінальныя паясы;

8 клас — Тэма 12. Надаецца ўвага ведам вучняў аб велічыні і саставе тэрыторыі Расіі (на прыкладзе федэральных акругоў).

Уключаны дзве практычныя работы па замацаванні тэарэтычных ведаў і выпрацоўцы ўменняў састаўляць комплексную характарыстыку палітыка-адміністрацыйнай адзінкі тэрыторыі па розных геаграфічных крыніцах.

Актуальныя звесткі аб саставе тэрыторыі Расіі можна атрымаць з артыкула Рома В.Я. ў часопісе "География в школе", 2000, №6 "Новые данные об административно-территориальном делении России в связи с началом коренной административной реформы".

Павялічылася колькасць гадзін на вывучэнне складаных тэарэтычных і практычных пытанняў геаграфіі за кошт скарачэння гадзін на менш складаныя тэмы. Дадаткова вылучаны ўрокі абагульняючага паўтарэння:

у 6 класе — пасля тэмы 1 "Картка — другая мова геаграфіі";

у 8 класе — пасля тэмы 2 "Паўночная Амерыка".

Нагадваем, што ўрокі абагульняючага паўтарэння маюць вялікую ролю ў фарміраванні інтэлекту і геаграфічнай культуры вучняў. На іх арганізуецца абагульненне на больш высокім узроўні вядомага матэрыялу і набываюцца дадатковыя веды і ўменні за кошт вызначэння новых прычынна-выніковых сувязей, выкарыстання прыёмаў аналізу, сінтэзу, параўнання, аргументацыі, доказаў.

У сувязі з тым, што праграма 9 класа прадугледжвае правядзенне экскурсій на прадпрыемства, аналагічная экскурсія знята з праграмы 10 класа. Улічваючы асаблівыя ўмовы і абсталяванне, якія патрэбны для правядзення палявога практыкума, і цяжкасці, якія паўстаюць перад настаўнікамі ў сувязі з гэтым, зняты з праграмы 10 класа палявы практыкум.

Змяненні закранулі нумарацыю практычных работ, якая суаднесена з паслядоўнасцю вывучэння матэрыялу ў тэме. Пазначаны зорачкай выніковыя практычныя работы, за якія выстаўляюцца адзнакі ўсім вучням, бо яны накіраваны на прымяненне, паглыбленне і развіццё тэарэтычных ведаў і замацаванне ўменняў. У адрозненне ад трэніровачных выніковыя практычныя работы праводзяцца на больш высокім узроўні самастойнасці школьнікаў. Да іх выканання мэтазгодна прыступаць толькі пасля таго, як вучні авалодаюць неабходнымі прыёмамі вучэбнай дзейнасці з картаграфічнымі, статыстычнымі і іншымі крыніцамі ведаў.

Не абазначаныя зорачкай практычныя работы могуць выконвацца ў вуснай або пісьмовай формах і быць ацэнены на погляд настаўніка.

Да асобнай групы належаць практычныя ўменні вучняў па выкананні заданняў на контурнай карце. Настаўнік вызначае дакладнасць нанясення геаграфічных аб'ектаў, правільнасць і акуратнасць запаўнення контурнай карты. У выпадку незадаволенасці наборам заданняў на контурнай карце можна ўключыць іншыя заданні ў адпаведнасці з патрабаваннямі праграмы, не перагружаючы пры гэтым вучняў дадатковай інфармацыяй.

У праграме 6 класа практычныя работы краязнаўчага характару (№4 у тэме 3, №3 у тэме 4 і №1 у тэме 6) праводзяцца на мясцовасці ў час вывучэння адпаведных тэм альбо ў час вясенняй экскурсіі, абазначанай праграмай.

Афармленне вынікаў праграмных практычных работ ажыццяўляецца вучнямі ў форме тэкставага апісання, чарцяжа, схемы, табліцы, мадэлі на контурнай карце і г.д.

Метадычныя рэкамендацыі па арганізацыі і правядзенні практычных работ дадзены ў вучэбна-метадычных дапаможніках па кожнаму курсу геаграфіі, выдадзеных у рэспубліцы. Па-ранейшаму можна скарыстаць метадычны дапаможнік Сіроціна У.І. "Практические работы по географии и методика их выполнения (6-10 класы): Пособие для учителя. — М.: АРКТИ, 1998, 1991. У 2000 годзе выдавецтвам "Асобны Дах" выдадзены сшыткі для практычных работ па геаграфіі ва ўсіх класах (6-10), падрыхтаваныя аўтарам С.Б.Холевым.

Пры фарміраванні ведаў, уменняў і навыкаў вучняў вялікая ўвага надаецца картаграфічнаму метаду як інструменту пазнання прасторавага размяшчэння геаграфічных аб'ектаў і з'яў, як сродак стварэння вобраза тэрыторыі і шлях даследавання, ацэньвання і прагназавання змяненняў у навакольным асяроддзі. Між тым, школьная практыка сведчыць, што неэфектыўна арганізаваная работа з картай на ўроку прыводзіць да не адпавядаючай патрабаванням праграмы якасці картаграфічных ведаў і ўменняў вучняў.

У сувязі з гэтым рэкамендуецца настаўніку больш дакладна адбіраць на ўрок асноўны картаграфічны матэрыял згодна стандарту і праграме, пры гэтым рабіць акцэнт на развіццё мыслення вучняў праз выкарыстанне разнастайных метадаў работы з картай.

Ужо выпушчана значная колькасць картаграфічнай прадукцыі. У бягучым годзе рыхтуюцца да выдання наступныя насценныя карты:

Асноўныя сельскагаспадарчыя культуры свету;

Глебавая карта свету;

Народы і шчыльнасць насельніцтва свету;

Рэспубліка Беларусь. Насельніцтва;

Вучэбная геаграфічная карта.

У 2001 годзе ўжо выдадзены атласы на рускай мове па пачатковаму курсу геаграфіі для 6 класа і па геаграфіі мацерыкоў і краін для 7 класа. Гэтыя ж атласы будуць выдадзены на беларускай мове да пачатку новага навучальнага года.

Плануецца выпусціць атласы па геаграфіі мацерыкоў і краін для 8 класа да канца бягучага года.

Да новага навучальнага года ў кнігагандаль пастуцяць камплекты контурных карт для 6-10 класаў. Контурныя карты для 7, 8 класаў — новыя, яны маюць колеравы фон у дзве фарбы і сістэму вучэбных заданняў у адпаведнасці са зместам нацыянальных атласаў.

У 2001 годзе ў аддзелы адукацыі паступілі праграмы для паглыбленага і профільнага навучання геаграфіі (8-11 класы). У бягучым годзе будзе выдадзены вучэбны дапаможнік: Мяшэчка Я.М. і інш. Геаграфія Беларусі, 9 клас (з паглыбленым вывучэннем геаграфіі). Мн.: Народная асвета.

У арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу па геаграфіі на базавым і павышаным узроўні можна скарыстаць наступныя артыкулы:

— Горкина Т.И. Проблемы и перспективы использования нетрадиционных видов энергии. География в школе. 2000, №6.

— Горкина Т.И. Географические аспекты формирования международного рынка капиталов в послевоенный период. География в школе, 2000, №2.

— Громов А.Ч. Тойотизм. Новая форма организации труда и производства. "География". 2000, №28.

— Дмитревский Ю.Д. Африка: природа, население, хозяйство. Страны Африки: Египет, Нигерия, ЮАР. География в школе. 2001. №2.

— Евдокимов В.И. Экзогенные рельефообразующие процессы. География, 2000, №26.

— Заяц Д.В. Политическая карта мира: что изменилось за 100 лет. География, 2001, №17.

— Крайко Б. Нефтяная и газовая промышленность мира. Геаграфія: праблемы выкладання, 2000, №4.

— Козаренко А.Е. Современные представления о внутреннем строении Земли и литосферы. География, 2000, №4.

— Лазаревич К.С. Ветер. География, 2000, №35.

— Максаковский В.П. Демографический взрыв в современном мире. География, 2001, №13, 19.

— Максаковский В.П. Развитие и география международного туризма. География в школе, 2000, №8.

— Махоткин А.В. Региональное деление стран Азии. География в школе, 2000, №2.

— Пивоваров Ю.Л. Урбанизация в современном мире. География в школе, 2000, №5.

— Сухоруков В.Д. Европейские регионы: Восточная Европа. География в школе, 2000, №6.

— Ченчини К., Корбетта Ф. Третичный сектор. География, 2000, №25.

Мэтанакіраванае развіццё асобы вучня стала цэнтральнай задачай сучаснай школы, у якой набываюцца не толькі веды, уменні і навыкі, а і спосабы іх атрымання, замацавання і выкарыстання на практыцы. Асаблівая ўвага надаецца індывідуальным і калектыўным формам навучання, самастойнай дзейнасці вучняў, валоданню прыёмамі пошукавай і творчай пазнавальнай дзейнасці.

Удасканаленне ўрока па гэтых і іншых сучасных накірунках адбываецца калі настаўнікі выкарыстоўваюць эфектыўныя метады і тэхналогі. Ёсць вопыт распрацоўкі цэлых курсаў геаграфіі па модульнай тэхналогіі. У 2001 годзе выдавецтвам "Народная асвета" будзе выпушчаны першы вучэбна-метадычны дапаможнік Быстровай С.М. "Модульнае навучанне на ўроках геаграфіі", 6 клас. На старонках навукова-метадычных часопісаў і газеты "География" падаецца вопыт распрацоўкі ўрокаў па сучасных тэхналогіях:

— групавыя і калектыўныя спосабы навучання — География в школе, 2000, №8; 2001, №17. География, 2000, №31;

— модульная — Геаграфія: праблемы выкладання, 2000, №2, 3;

— метад праектаў — География. 2000, №28, 31;

— поўнага засваення — Геаграфія: праблемы выкладання. 2000, №4;

— прагназіраванне — География в школе, 2000, №7;

— поўнага засваення — Геаграфія: праблемы выкладання. 2000,

— мадэліраванне — География, 2001, №16.

Пры падрыхтоўцы вучняў да алімпіяд настаўнікі могуць арыентавацца на матэрыялы, змешчаныя ў кнізе Аношкі В.С. і інш. "Задания олимпиад по географии". 1991-2000 гг. — Мн.:Технология. Са зместам алімпіядных заданняў у Расіі можна пазнаёміцца праз газету "География", 2000, №46; 2001, №16, 20.

Рэалізацыя дзейснага падыходу ў навучанні геаграфіі ў значнай ступені залежыць ад стану кабінета геаграфіі, магчымасці эфектыўнага выкарыстання сродкаў навучання, у тым ліку як традыцыйных, так і сучасных: відэафрагментаў і відэафільмаў, камп'ютэра. Увага да абсталявання кабінета неабходнымі вучэбнымі сродкамі не павінна паслабляцца. Парады настаўнікам аб выкарыстанні інфармацыйных тэхналогій даюцца ў артыкулах:

"Как пользоваться Интернетом". География, 2001, №)13.

"Ресурсы Интернета для учителя географии". География, 2001, №19.

"Проведение дистанционного исследовательского проекта через Интернет в школьной географии". География в школе, 2000, №5.

У змест метадычнай работы з настаўнікамі геаграфіі рэкамендуецца ўключаць актыўныя метады навучання па авалоданню эфектыўнымі адукацыйнымі тэхналогіямі, разнастайнымі прыёмамі картаграфічнай падрыхтоўкі вучняў, метадамі фарміравання агульнавучэбных і прадметных уменняў і навыкаў, у тым ліку інтэлектуальных.

Неабходную дапамогу метадыстам і кіраўнікам метадычных аб'яднанняў у арганізацыі практычнай работы з настаўнікамі ў сучасных умовах аказваюць курсы, семінары і іншыя формы, якія праводзяцца на розных узроўнях. 6-7 верасня бягучага года ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі адбудзецца семінар-практыкум "Развіваючае навучанне ў навучальным працэсе па геаграфіі"; з 14 па 26 студзеня 2002 года — курсы метадыстаў і кіраўнікоў МА настаўнікаў геаграфіі "Інавацыйныя працэсы ў геаграфічнай навуцы і тэхналогіях яе выкладання".

**Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі.**

# Эстетический цикл

В 2001-2002 учебном году преподавание **мировой художественной культуры** осуществляется по программам, изданным в 1999 году.

Учителям предлагаются на выбор две программы: "Мировая художественная культура" и "Человек в мире культуры".

Обращаем внимание учителей на то, что программы построены по "рамочному" принципу, т.е. объем учебного материала значительно расширен. Это диктует необходимость создания каждым учителем индивидуального календарно-тематического плана.

При его создании следует учесть следующие факторы:

— цель и задачи художественно-эстетического образования;

— психолого-педагогические, возрастные особенности учащихся;

— материальную базу учебного заведения;

— наличие учебных и аудиовизуальных пособий.

Учитель может отобрать часть материала для наиболее подробного изучения, другие темы рассмотреть обзорно.

Важно учесть методические требования к составлению индивидуального плана:

— необходимость сохранения основных сведений об искусстве в разные эпохи, характерных черт различных видов искусства, стилей, жанров, сведений о их наиболее ярких представителях;

— в каждой теме по мере возможности следует представить произведения всех основных видов художественного творчества, так как предмет мировая художественная культура носит интегрированный характер;

— материал по белорусской культуре должен быть представлен параллельно материалу по мировой культуре, начиная с древних времен до современности, причем особое внимание необходимо обратить на окружающее культурное пространство, играющее огромную роль в воспитании зрительской, слушательской и общей культуры современного человека;

— при работе над каждой темой курса учащиеся должны быть включены в следующие виды художественно-творческой деятельности: восприятие произведений, изучение теории и истории искусства и самостоятельное творчество.

Составляя свой календарно-тематический план, учитель, в целях учета возрастных и психологических особенностей учащихся, может использовать хронологические инверсии.

С позиции вышеперечисленных целей и задач художественно-эстетического образования предмет мировая художественная культура — это не традиционная передача и пассивное восприятие готовых знаний, выводов и точек зрения, а создание условий для индивидуального развития личности.

С этой точки зрения преподавание мировой художественной культуры — это прежде всего процесс творческих поисков, художественных открытий и идей, понимания и прочтения шедевров мирового искусства, овладения его выразительными средствами.

Успех достижения этих целей и задач во многом зависит от профессиональных качеств учителя МХК, его умения творчески подойти к организации учебного процесса, так как невозможно раскрыть чью-то индивидуальность, работая стандартно.

Важными направлениями в работе учителя МХК являются деятельностный и личностно-ориентированный подходы, повышение эффективности педагогического процесса, что невозможно без внедрения новых педагогических технологий. Важно, чтобы за технологизацией учебного процесса не были забыты основные принципы преподавания МХК: приоритет творческой задачи над знаниями, умениями и навыками в создании выразительного образа, гуманитарное воздействие на личность человека, ее развитие и формирование.

При ознакомлении с новым материалом, его закреплении и проверке знаний учащихся учитель может использовать репродуктивные, аналитические (проблемно-поисковые) и творческие задания (даны в инструктивно-методическом письме "Искусство" к 2000-2001 учебному году).

Применяя в процессе донесения информации и усвоения ее учащимися такой традиционный метод, как лекция, необходимо помнить о том, что через 15-20 минут она теряет свою эффективность. Поэтому для концентрации внимания на получении информации и для того, чтобы учащиеся больше анализировали и размышляли рекомендуется:

— зафиксировать на доске план темы в основных вопросах, которые необходимо осветить, и предложить учащимся дать в конце урока свой план и прокомментировать его;

— дать по каждому вопросу по две или три основные особенности, закрепив их примерами;

— учащиеся перед лекцией могут получить специальные задания проблемного характера, ответ раскрывается в процессе лекции;

— в конце лекции целесообразно коллективно обсудить те проблемы, которые в ней освещались, и сделать выводы;

— учитель должен быть чуток к аудитории, учитывать возрастные и психолого-педагогические особенности учащихся.

Для активизации познавательной деятельности учащихся, лучшего усвоения программного материала, пробуждения интереса к предмету, речевой активности, развития творческих способностей и навыков практического применения знаний наиболее продуктивными являются активные формы работы с учащимися: урок-путешествие, урок- игра, урок-концерт, урок-интервью, урок-презентация, урок-репортаж, урок-бенефис, урок-заседание художественного совета и др.

Домашние задания по мировой художественной культуре должны быть проблемно-поискового, творческого характера.

Престиж предмета для учащихся во многом зависит от уровня контроля их знаний. Поэтому на каждом уроке должен быть текущий контроль знаний (слайд-викторины, видеогиды, составление и отгадывание кроссвордов и т.д.), промежуточный (письменная контрольная работа) и итоговый (инструктивно-методическое письмо "Организация и проведение экзамена по мировой художественной культуре", опубликованное в журнале "Асновы мастацтва", № 1 за 2001 г.).

Учителю необходимо использовать научно обоснованные в образовательном стандарте "Искусство" требования к объему учебной нагрузки, уровню подготовки учащихся, критерии оценки знаний, умений и навыков, измерители и систему контроля их выполнения по предметам эстетического цикла.

При оценке знаний учеников целесообразно учитывать их умение доказательно обосновывать свое понимание произведений искусства, свое отношение к заключенным в них моральным и эстетическим проблемам и художественным ценностям. Рекомендуется, чтобы оценка была стимулирующей, поддерживающей интерес учеников к искусству. Оценивать знания учащихся можно по полугодиям.

Обращаем внимание учителей на то, что список произведений искусства для узнавания, который помещен в образовательном стандарте "Искусство", примерный. Поэтому возможно их варьирование, особенно по темам, которые даются обзорно ("Театр", "Кино").

В помощь учителям мировой художественной культуры в журналах "Асновы мастацтва", "Роднае слова", "Народная асвета" печатаются методические материалы.

В 2001 году выйдет учебное пособие "Искусство" для 11 класса, готовятся к изданию следующие книги: "Методика преподавания МХК в 9 классе" Г.С.Нарушевич, Т.Я.Вазинской, "Тесты по МХК" для 9 класса Т.Я.Вазинской, "Нотная хрестоматия по МХК" для 9 класса.

Поскольку восприятие памятников искусства является неотъемлемой частью урока МХК, то необходимость использования на уроке репродукций, слайд- и диафильмов, фонограмм, книжных иллюстраций — очевидна. Поэтому немаловажное значение в продуктивном преподавании МХК и других предметов эстетического цикла имеет оснащенный современными аудио-визуальными средствами кабинет, который должен стать в школе центром художественного воспитания. Подготовленные по заказу Министерства образования необходимые для уроков МХК диа- и слайдфильмы, в которых отражено западноевропейское, русское и белорусское изобразительное искусство от первобытного времени до конца XIX столетия, можно приобрести непосредственно на студии "Дифильм" (220028, г.Минск, пр.Ф.Скорины, 98, тел. 264-14-80) или в магазинах Белорусского республиканского объединения "Глобус". Форма оплаты любая. Список названий диа- и слайдфильмов, а также других источников приобретения видео- и книжной продукции смотрите в инструктивно-методическом письме "Искусство" к 2000-2001 учебному году. Кроме этого, Белорусским государственным институтом проблем культуры подготовлены на компакт-дисках 4 серии электронной энциклопедии "Культура Беларуси: Лучшие страницы", "Архитектура Беларуси", "Белорусская иконописная школа", "Белорусский традиционный костюм", "100 раритетов из музеев Беларуси". За справками обращаться: 220013, г.Минск, а/я 40, "Артмультимедиа", тел. (017) 263-14-47.

Преподавание **музыки** осуществляется по программам, изданным в 1997 г.

С 2002 г. начинается массовый переход школ II ступени на 12-летний срок обучения. Учителям будут предложены на выбор 2 программы по музыке: традиционная, в основу которой положена концепция музыкального образования, разработанная Д.Б.Кабалевским, и новая программа, подготовленная ст.н. сотрудником Национального института образования В.Д.Юркевич. Новая программа будет опубликована для ознакомления в журнале "Асновы мастацтва", вып. 3 и 4.

В 2001 г. вышли и готовятся к изданию следующие пособия:

Л.Макеева. Сольфеджио. Пособие для учащихся подготовительного класса школ с музыкальным и общеэстетическим уклонами.

В.Мистюк и др. "Музыка, VI кл." Учебное пособие для учащихся.

Т.Королева "Приглашение в мир балета". Книга для учащихся.

Б.Кожевников "Как прекрасен этот мир". Произведения зарубежных композиторов XX в. для детского хора.

В.Каретников. "Времена года". Фортепианные произведения белорусских композиторов.

В.Юркевич. "Искусство". Нотная хрестоматия для подготовительного класса.

Т.Вазинская. Нотная хрестоматия для IX кл. по МХК.

Н.Щербакова. Хрестоматия по истории музыкальной педагогики и психологии.

Для школ с хореографическим уклоном подготовлены и поступят в школы программы по профилирующим дисциплинам.

Преподавание изобразительного искусства осуществляется по программам, изданным в 2000 г.

Обращаем внимание учителей, что в данном сборнике помещены программы для VIII-IX кл. школ с общеэстетическим уклоном.

В 2001 г. в школы поступят следующие пособия:

Н.Мінц і інш. "Выяўленчае мастацтва, I клас".

Л.Сяргеенка. "Выяўленчае мастацтва, III кл."

Б.Лазука. "Слоўнік тэрмінаў па архітэктуры, выяўленчаму і дэкаратыўна-прыкладному мастацтву".

У.Рыкевіч. "Мастацтва акварэлі", дапаможнік для вучняў IX-XI кл. школ з мастацкім і архітэктурна-мастацкім ухіламі.

В.Шамшур. "Лінарыт. Мастацтва і тэхніка".

Р.Шаўра. "Малюнак у навучальным працэсе".

Л.Миронова. "Цвет в изобразительном искусстве".

Р.Клікушын. "Мастацтва шрыфту", дапаможнік для вучняў IX-XI кл. школ з мастацкім і архітэктурна-мастацкім ухіламі.

А.Багустаў. Пленэр у мастацкай школе.

Для школ с художественным и архитектурно-художественным уклоном, студий художественное предприятие. "Скульптурный комбинат" изготавливает наглядные пособия из гипса: геометрические тела, розетки, детали головы Давида, маски и др. За справками обращаться: г. Минск, ул. Фроликова, 45, мастерская Пархоменко В.Е.; тел. (017) 235 - 23 - 12.

На августовских совещаниях, методических объединениях учителей **МХК, музыки, изобразительного искусства** в течение учебного года предлагается обсудить следующие вопросы:

1.Гуманистическое и художественное образование учащихся средствами искусства.

2.Формирование общечеловеческих ценностей на уроках искусства.

3.Развитие творческого потенциала личности ребенка на уроке и во внеурочной деятельности.

4.Концептуальные подходы к составлению индивидуальной программы по МХК.

5.Использование репродуктивных, аналитических (проблемно-поисковых) и творческих заданий при изучении и закреплении нового материала и проверке знаний учащихся на уроках.

6.Активные формы работы с учащимися на уроках. Жанр урока.

7.Организация контроля за знаниями учащихся на уроках.

8.Требования к уровню профессиональной подготовки учителя МХК.

9.Деятельностный и личностно-ориентированный подходы в использовании традиционных методов и новых педагогических технологий, повышение эффективности педагогического процесса на уроках.

10.Требования к объему учебной нагрузки, уровню подготовки учащихся, критерии оценки на уроках. Образовательный стандарт "Искусство".

11.Обновление содержания предметов эстетического цикла в свете реформы общеобразовательной школы.

12.Учет возрастных и психолого-педагогических особенностей учащихся в преподавании предметов эстетического цикла.

13.Использование окружающего культурного пространства в формировании эстетического сознания школьников, воспитании внутренней потребности самостоятельного общения с миром искусства.

14.Развитие творческих способностей школьников средствами белорусского народного искусства.

15.Традиции и новаторство в художественном обучении учащихся.

**Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі.**

